Цана асобнага нумару 20 грош.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл.50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|

№. 2 Вільня, Пятніца, 2-га ліпня 1926 г. Год I.

## Ад слоў да дзела.

Многа пекных слоў нагаварыла нам у сваіх нашумеўшых „дэклярацыях“ тая польская нацыяналістычная „лявіца“, якая і фізычна і маральна падтрымала „пераварот“ марш. Пілсудскага, запэўняючы нашы працоўныя масы, што ад гэнага „перавароту“ настане і для нас „рай“ у Польшчы. — Але не дарма беларускія сяляне і работнікі аднесьліся да гэных пекных слоў дужа недаверчыва: з першых жа крокаў новага ўраду ясна відаць, чаго ад яго можа спадзявацца працоўная Беларусь.

Перадусім трэба адзначыць тыя крокі ўраду „маральнае санацыі“, якія датыкаюць сацыяльнае пытаньне, — у першую чаргу *зямельную справу*. Бо-ж справа беларуская ў Польшчы—гэта ня толькі справа нацыянальная, а і сацыяльная: ня можа быць месца для шырокага культурна-нацыянальнага руху там, дзе народ галодны, прыгнечаны эканамічна, вядзе жыцьцё нейкіх паднявольных рабоў....

Ніжэй мы даем стацьцю аб пастанове гаспадарчага камітэту рады міністраў у справе *валёрызацыі банкаўскіх пазык сялянству на куплю зямлі з парцэляцыі*. Хаця ў нас вельмі мала такіх „шчасьліўцаў“, якія дасталі ўрадавыя пазыкі, аднак самы факт такое пастановы паказуе, чаго можам спадзявацца ў справе забясьпечаньня нашага сялянства зямлёй. А вось дапаўненьне да гэнае пастановы.

На паседжаньні бюджэтнае камісіі — пры разглядзе асыгновак на міністэрства зямельных рэформ —украінскі пасол Васыньчук зьвярнуўся да пана прэм'ера з запытаньнем: ці праўды тыя грошы, якія пастаўлены ў бюджэце на выдаткі гэнага міністэрства ў наступным квартале, празначаны *на асадніцтва*? На гэта галава ўраду п. Бартэль адказу ня даў... І ўжо на пленуме Сойму той-жа пасол Васыньчук сцьвярдзіў, як *незапярэчаны факт*, што ўрад дае на асаднікаў вялізарную суму грошы, абмяжовываючы гэтым блізу ўсю сваю дзеяльнасьць па праводзенью ў жыцьцё зямельнае рэформы.

А можа хоць падаткавы цяжар палягчэе?!—І на гэта адказ ужо дадзены ўрадам п. п. Бартля-Пілсудскага. *Падаткі ўсе падымаюцца на 10%*, — знача, на дзесятую частку дасюляшніх. На рахунак гэнае падбаўкі п. Пілсудскі ўжо загадаў выплаціць пэнсіі вайсковым за ліпень у павялічаным разьмеры....

А мо' што *для школ* будзе зроблена? Мо' паадчыняюць урэшце хоць тыя школы, на якія пададзены ўжо летась дэклярацыі?! Аб гэтым нічога ня чутно. Ня чутно і аб падгатоўцы вучыцялёў для гэных школ—аб стварэньні вучыцельскіх сэмінарыяў, курсаў і т. п., якія далі-б магчымасьць хоць праз год прыступіць да спаўненьня таго, на што навет эндэкі згадзаліся, праводзячы „языковыя“ законы,—праўда, нікім не прызнаваныя.... Кажуць, што ўрад маніцца ўзяць назад толькі адзін цыркуляр былога эндэцкага міністра асьветы Грабскага: аб навуцы ў гімназіях з нямецкай выкладовай мовай гісторыі і геаграфіі—папольску. Ну, дык-жа ніводная гімназія—ані беларуская, ані жыдоўская, ані украінская ці літоўская—не паслухалася яго і ўсё роўна слухаецца ня будзе! — А вось і сёлета беларускім матурыстам дзьверы ў польскія ўнівэрсытэты зачынены, і яны прымушаны тайна (бо пашпартоў не даюць!) уцякаць заграніцу, каб вучыцца тамака далей.....

Усе папярэднія ўрады тлумачыліся тым, што ў скарбе няма грошы на адчыняньне беларускіх школ.... Але на польскія—хапала!—На асаднікаў—таксама! Хапала і на тое, каб трымаць у вастрогах 6½ тысяч палітычных вязьняў, каб дзеля змаганьня з вызвольным рухам працоўных і нацыянальных меншасьцяў утрымліваць цэлую армію паліцэйскіх і шпікоў рознага гатунку.... І новы ўрад, замест зьлківідаваць ліхую спадчыну па сваіх папярэдніках, замест расчыніць вастрогі перад палітычнымі вязьнямі,—вядзе далей старую лінію, не шкадуючы грошы на ўзмацаваньне старога паліцэйскага рэжыму. Ды мала таго: ўрад „маральнае санацыі“ не шкадуе грошы навет на такія выдаткі, на якія і ўрад Вітаса ня шастаў народнага дабра. Мы маем на думцы арганізаваньне ўрадам *за скарбовыя грошы* павлюкевічаўскага зьезду.

Ня будзем тут доўга затрымлівацца над гэным зьездам*). Адзначым толькі, што дэфэнзыўныя дзеячы зьбіралі яго „*пасямейнаму*“: з аднае гміны, дзе меў Павлюкевіч „сваіх людзей“ (Сіняўка), прыехала ажно 8 душ сялян, само сабой разумеецца — ні ў чым не разьбіраючыхся і ведаючых толькі адно: далі грошы на дарогу, дык чаму-ж не праехацца?! З аднае вёскі (Казлоўшчыны) прывезьлі ажно 6 душ. Нейкі Тарасюк прывёз з сабой 14-гадовага сына з „мандатам“. „Ведамы“ Вярнікоўскі прывёз свайго „пляменьніка“ — так сама з „мандатам“... ад дзядзькі! І г. д. За тое-ж большасьць беларускіх *паветаў* зусім не прадстаўлена—навет па „сямейнаму“ спосабу....

*) Справаздачу з гэнага зьезду дамо ў чародным нумары.

І дзеля чаго-ж урад кінуў грошы на скліканьне такога зьезду? Ці дзеля таго, каб даведацца, чаго трэбуе беларускі народ?—Дык-жа аб гэтым і цяперашняму і ўсім даўнейшым польскім урадам ведама дужа добра: пэўне, каб зляжыў разам усе мэморыялы, пэтыцыі, рэзалюцыі зьездаў — запраўды ўсенародных, а не падабраных агентамі таго-ж ураду,—дык з іх утварыліся-бы цэлыя томы! А дамаганьні пасloў, выбраных усім беларускім насяленьнем Заходняе Беларусі?! Іх мэморыялы і празіцыі ў Сойме? Ці гэта менш гавора польскаму ўраду, чым маленькая жменька сялян, сагнаных паводле выбару агентаў дэфэнзывы?!...

Ведама-ж, што не! Ураду даволі пакапацца ў сваіх архівах, і там ён знойдзе ўсё, што яго можа цікавіць. Але ўрад, як бачым, ідзе намечаным ужо даўно пэпээсамі шляхам: мы памятаем, як п. Недзялкоўскі пагражаў, што польская „лявіца“ будзе *гаварыць з беларускімі масамі праз галовы іх выбранцаў і ідэйных павадыроў*! Гэта й пробуе рабіць урад п. п. Бартля і Пілсудскага...

Дый каб-жа гаварыў запраўды з масамі: гэта нікога не магло-б запужаць! Але-ж урад хоча „слухаць голасу“ людзей, якіх яму паказуе пад відам „масы“ дэфэнзыва... Бо ці-ж можна лічыць за голас масы „зьезд“, з'арганізаваны праз Павлюкевіча?!—А на гэткую вось камэдыю кідаюцца вялікія сумы народныя грошы, спаганяных з крываве працы беларускіх сялян.

Ці-ж гэта—не найлепшая мера „шчырасьці“ кіраўнікоў польскае „новае“ дзяржаўнае палітыкі—ў адносінах да беларусаў?!

## Палітычным вязьням—волю!

У нашы рукі папаў цікаўны дакумант: гэта—рэзалюцыя аб амністыі для палітычных вязьняў, пастаўленая сялянамі на зьезьдзе „Часовай Рады“ ў Вільні, 27—29 г. м. Зьмест яе наступны:

„Прыймаючы пад увагу, што за часы панаваньня ў Польшчы Хіена-Пястоўскіх рэакцыйных урадаў праводзіліся масовыя арышты асобаў, якія змагаліся проці пануючае рэакцыі, а таксама за культурна-нацыянальныя і сацыяльныя правы беларускага народу, што і да гэтага часу адбываюцца на нашых землях арышты і судовыя працэсы на падставе нескасаваных дагэтуль царскіх законаў, што турмы перапоўнены змагальнікамі за лепшую долю нацыянальных меншасьцяў і наагул працуючых масаў, што ў зьвязку з адбыўшайся маёвай рэвалюцыяй у Варшаве польскія дэмакратычныя кругі і навет партыі стаяць за амністыю для палітычных вязьняў, што, урэшце, бяручы за прыклад перамену хадэцкага ўраду ў Літве на ўрад дэмакратычны, там, у Літве, праводзіцца амністыя для палітычных вязьняў,—**зьезд прызнаець патрэбным** зьвярнуцца да цяперашняга Польскага Ураду, які паўстаў у выніку маёвае рэвалюцыі, каб працаваць пад гаслам маральнае санацыі ста сункаў у краю, з дамаганьнем поўнае амністыі для палітычных вязьняў і скасаваньня даразных судоў і кары сьмерці“.

Сам факт, што нат на штучна падабраным паўлюкевічаўскім зьезьдзе апынулася група людзей, якія патрэбавалі амністыі, вельмі ярка сьведчыць, як глыбока гэтае дамаганьне пранікла ў масы Заходняй Беларусі, як папулярна яно. Рэзалюцыя ў гэтай форме, ясна, не прайшла; зьезд разьбіўся на гэтым пытаньні, і апазіцыя выйшла.

Становішча Павлюкевіча прадыктована яму „зьверху“: яго можна разглядаць у пэўнай меры, як урадовае, і з гэтага пункту гледжаньня заслуговывае яно на ўвагу.

Павлюкевіч пад націскам сялян, баючыся развалу з такім трудом і з такімі коштамі скліканага зьезду, быў змушаны згадзіцца на рэзалюцыю, але — з аднэй дабаўкай: амністыя не павінна датычыць камуністаў. Гэта была апошняя яго ўступка.

Дарэмна сяляне даказывалі яму фактамі (наагул, добра Павлюкевічу ведамымі з уласных яго даносаў у паліцыю!), што ў Заходняй Беларусі пад камунізм падводзяць людзей, нічога супольнага з камунізмам ня маючых, што іх засуджваюць нібы-то за прыналежнасьць да гэтай партыі на аснове ядных паказаньняў незаслугуючых на даверые агентаў дэфэнзывы, што нарэшце і сярод тэй часткі засуджаных, што „прызналіся“, знаходзяцца людзі, якія пры „badaniu“ былі прымушаныя ўзяць на сябе няістнуючую віну, — што гэтакім чынам амністыя „без камуністаў“ пакідае ў вастрогах масу нявінных людзей. Павлюкевіч упёрся. Ён пайшоў на разьбіцьце зьезду, але рэзалюцыю аб агульнай амністыі пры помачы сваей большасьці — не прапусьціў.

Параўнуем цяпер яго становішча з абрыўкамі інфармацый, пападаючых у газэты аб слаўным праекце ўрадавай амністыі. І тут тое самае, толькі—менш ясна выражанае, як у Павлюкевіча. Копія згодна з арыгіналам...

Амністыя ў гэткай форме — нічога не дае; гэта насьмешка над амністыяй. Ці даўно гэта мы чыталі ў пазнанскіх газэтах, што і Пілсудскі — „бальшавік“? Пілсудскі—вядомая асоба, яго так лёгка падвясьці пад „wywrotowca“ і „komunizującego“ — нельга; але-ж колькі людзей і цэлых напрамкаў прадажная прэса „рэкамэндуе“ ўладам, як „камуністаў“? Сколькі іх гніе па вастрогах?..

Але гэта яшчэ ня ўсё. Мы йдзем далей. Уся радыкальная беларуская прэса ахрышчана „камунізуючай“. „Dziennik Wilenski“ нат „Сялянскі Саюз“ называе камуністамі. Мы да гэтага ўжо прывыклі. Мы не камуністы, але не баімося ставіць дамаганьне амністыі для ўсіх,—ня толькі для так-званых „камуністаў“, але і цля праўдзівых.

Гэтага вымагае справядлівасьць. За свабоду сумленьня **для ўсіх** работнікаў і сялян, за права іх да арганізацыі без паліцэйскага падзелу на „prawomyslnych“ і „nieprawomyslnych“ мы будзем пасьлядоўна і цьверда змагацца.

Нат у польскай канстытуцыі стаіць пункт аб свабодзе сумленьня, хоць ён ніколі не праводзіўся ў жыцьцё. І мы маем права дамагаьца ад ураду, называючага сябе урадам справядлівасьці, каб прыдзержываўся канстытуцыі, а што яшчэ больш важна — каб споўніў волю шырокіх мас народу.

**Выпусьціце на волю ўсіх палітычных вязьняў!**

# „Сацыяльная палітыка“ новага Ўраду на „Крэсах“.

*(Як урад пачаў „фінансаваць“ набываньне зямлі мясцовым малазямельным сялянствам, а як—асадніцтва).*

Запраўднае аблічча, ці сацыяльная прырода ўраду „маральнай рэвалюцыі“ выяўляецца ўсё ясьней — па меры таго, як паны палажэньня ад пекных слоў пераходзяць да дзела...

З гэтага пункту гледжаньня, можа, найбольш характэрным крокам новага, створанага польскай дэмакратыяй ураду зьяўляецца пастанова „Гаспадарчага Камітэту“ Рады Міністраў, прынятая 14 чэрвеня: яна раскрывае да канца яго варожую для сялянскай беднаты наагул, а асабліва для беларускага ды ўкраінскага сялянства на „Крэсах“, —чыста „асадніцкую“ прыроду.

Гэта пастанова кажа, што **тыя доўгатэрміновыя пазыкі, якія набыўцы парцэляванай зямлі — на падставе „Закону аб парцэляцыі і асадніцтве“—атрымалі ці маюць атрымаць з дзяржаўных банкаў, павінны быць пералічаны з злотых—на золата, дый, ведама-ж, сплаты па гэтым пазыкам таксама павінны рабіцца—„у стасунку да вартасьці золата“... Гэта — агульнае правіла** („засада“); аб вынятку з яго — глядзі далей...

Газэты не паведамляюць, ці ўсе пазычаныя дагэтуль сумы маюць быць валёрызаваны *) паводле **цяперашняга курсу** злотага, ці — паводле **курсу таго дня, калі выдана пазыка.**

Наскольки гэтае „правіла“, **дэкрэтаванае Радай Міністраў,** важна для малазямельніка, купляючага зямлю — з пазыкай у дзяржаўным банку, стане ясным з практычнага прыкладу. —

Калі хлебароб пазычыў у дзяржаўным банку, прыкладам, 1000 злотых сёньня, калі курс даляра —10 злотых (курс золата заўсёды крыху вышэй), а праз нейкі час курс даляра, барані Бог, падскочыць, прыкладам, удвая, стаўшы ізноў на даўжэйшы час цьвёрда на 20 злотых, **тады пазычаная селянінам сума таксама будзе лічыцца дзяржаўным банкам удвая,** ці, замест 1000 зл., вырасьце — ў 2000 злотых. Дык, зразумела, і працэнты банк будзе спаганяць з даўжніка ўжо з „валерызаванай“ сумы 2000 зл... І гэта — зусім незалежна ад таго, ці таксама, як пры пераводзе на золата і даляры, зьменшылася **набыўчая** (пакупная) **сіла** — польскага злотага ў краі.

Каб гэта стала зусім ясна, возьмем параўнаньне з мінулым годам.

Кожны ведае, што „залатая вартасьць“ злотага, ці яго **курс** адносна да даляра цяпер — роўна **ўдвая меншая,** як год назад, але **пакупная вартасьць** злотага ў краі асталася больш-менш **тая-ж, якая была ў прошлым годзе.** Гэта значыць, што цэны **ў злотым** асталіся ў краі тыя-ж, але **пры пераводзе на золата** яны ўпалі ўдвая.

Калі б выданае Камітэтам „правіла“ дзеяла назад, тады селянін, які пазычыў год таму 1000 злотых, будзе мець раптам на карку доўгу — аж 2000 злотых,—**хаця зусім ня было адпаведнага спадку пакупной сілы злотага ў краі, і селянін мусіць па старым цэнам за злотыя прадаваць свае прадукты,** якія ён мае з купленай зямлі (—хлеб і інш.)..

Тое-ж самае паграважае ўсім сялянам-кліентам дзяржаўных банкаў і тады, калі толькі ад сёньня (а не назад) будуць звалерызаваны па залатому курсу дня ўсе іх пазыкі, і калі ў далейшым „залатая вартасьць злотага“ (яго заграгічны курс) будзе спадаць, не выклікаючы адначасна такога-ж спадку ўнутранай вартасьці злотага, ці—адпаведнага ўзросту цэн у краі... **Тады селянін-даўжнік** польскай дзяржавы, навет плоцячы ёй акуратна падвойныя ці патройныя процанты, ня толькі ня будзе з часам сплачываць свой доўг, але наадварот—усё глыбей залязаць з галавой у кабалу, бо доўг будзе ўсё расьці...

Ведама ж,—такой „крэдытнай дапамогі“ з боку дзяржавы ня вытрымае ня толькі маладая слабасільная гаспадарка малазямельніка, але—навет моцная—абшарніцкая, дый ня толькі ў нашыя крытычныя часы!!.

---

„Закон аб парцэляцыі і асадніцтве“—паводле пастановы „Гаспадарчага Камітэту“ міністраў—мае правадзіцца ў жыцьцё так, каб дзяржаўны скарб ня толькі нічога **ня страціў** на гэтай „сацыяльнай рэформе“, але, як мы бачылі, — каб яшчэ і **шмат зарабіць**—коштам „падтрыманых крэдытам“ — на руйнуючых варунках—малазямельнікаў...

Інакш кажучы, на першым пляне ў выкананьні сацыяльна-зямельнай рэформы, маючай усюды мэтай падняць гаспадарчы дабрабыт занядбаўшай клясы—слабасільных зямляробаў, рэформы, якая, як гэта ясна само сабой, можа адбыцца толькі шляхам значных ахвяр з боку дзяржавы (маючых класаў),—на першым пляне сваей акцыі польскі ўрад стаўляе фінансавую карысьць дзяржаўнага скарбу. І з гэткае пастаноўкі справы ясна вынікае, што **ўрад Бартля разумее ўжо і прадбачыць — няўхільнасьць інфляцыі, далейшага спадку злотага і г. д...** Дык і маніцца ўсе страты дзяржаўнага скарбу дакладаць, як заўсёды было ў Польшчы, галавой найслабейшых эканамічна і сацыяльна клясаў—малазямельнага і беззямельнага сялянства!..

*) „Валерызацыя“ і азначае тут абясьпечаньне пазычанай у злотых сумы ад магчымага спадку злотага — пералічэньнем яе на цьвердую валюту ці на золата.

Дык цяпер — „сацыяльная палітыка“ ўраду адносна да сялянства для нас ужо зусім ясная... А хто-ж з нас ня ведае, што калі для ўсяго сялянства ў Польшчы мае быць горка, дык для няпольскага сялянства будзе ў дзесяць разоў гарчэй?!.

---

Цяпер астаецца паглядзець, як новы ўрад мае выконываць **другую акцыю,** прадугледжаную Зямельным Законам: асадніцтва.

На шчасьце тая-ж пастанова Гаспадарчага Камітэту зусім выразна кажа і аб гэтым:

**„Як вынятак з правіла (—аб валёрызацыі пазыкаў), Камітэт зрабіў—на карысьць асаднікаў — уступку, якая мае сваё апраўданьне—ў іх цяжкім гаспадарчым палажэньні, а свае матывы — у сацыяльнай палітыцы ўраду“... (гл. „Robotnik“ № 72).**

Інакш кажучы: асаднікі—з упадкам злотага— будуць плаціць усё менш і менш, без валерызацыі доўгу!

Вось дык шчыра дзякуем Камітэту: прынамся ўсё—ясна...—Урад ваенных і цывільных асаднікаў, кінуўшы дэмакратычныя фразы, пачаў нарэшце гаварыць сваей натуральнай мовай, запраўды—без усялякага фальшывага сораму...

Гаспадарчае палажэньне асаднікаў—кажа Гаспадарчы Камітэт—мае быць нясумерна **больш цяжкім,**—у параўнаньні з мясцовым малазямельным і беззямельным насяленьнем „Крэсаў“, беларускім і ўкраінскім, якое Зямельны Закон усё-ж неяк дапусьціў—праз розныя шчыліны ды сіты—да карыстаньня з парцэляцыі на сваей Бацькаўшчыне.

Навет „Robotnik“, які пяяў ня так даўно гімны зямельна-асадніцкаму закону, і той абураецца на гэткія цынічныя „апраўданьні“ вынятку на карысьць асаднікаў...

Ці-ж запраўды хто ў Польшчы ня ведае, што на карку беларускага і ўкраінскага сялянства польская буржуазія садзіць ня столькі навет згалелых на малазямельлі польскіх хлебаробаў, (якіх агідна выкарыстоўваюць,—каб пасварыць між сабой польскае сялянства з няпольскім!), сколькі— ўсялякіх „нэробаў“,—людзей, што ня маюць нічога супольнага з зямлёй, часта-густа—заможных, навет багатых?!. Тысячы гэткіх асаднікаў — з былых ахвіцэраў, чыноўнікаў ды розных іншых панкоў ды падпанкаў,—папросту спэкулююць атрыманымі парцэлямі... Хто-ж ня ведае і таго, сколькі ўжо кроўных народных грошаў кінута польскай буржуазіяй у гэтую бяздонную прорву асадніцтва— ці то пад відам „пазыкі“ (без аддачы), ці навет адкрыта, як дармавіна?!—„Сядзі толькі чым мацней на жывым народзе ды рабі сваё дзела на „крэсах“!!

І вось—толькі гэтых асаднікаў урад лічыць „беднымі“, толькі гэтых асаднікаў на „крэсах“ „цяжкое палажэньне разумее“, толькі для іх робіць вынятак з гаспадарча забойчага для мясцовага насяленьня „правіла“, толькі для іх не шкадуе ахвяраў з боку дзяржаўнага скарбу!!.

А рэшту мясцовага малазямельнага і беззямельнага насяленьня — ўсю вясковую беднату ды галыцьбу нашых „крэсаў“—новы польскі ўрад лічыць... багатымі, дык коштам іх, коштам іх аканчальнай руіны маніцца навет—ратаваць дабрабыт дзяржаўнага скарбу Польшчы,—ў выпадку далейшага спадку злотага!..

---

„Robotnik“ у сваей заметцы слушна пытаецца:

„Ці-ж так сама ўрад забясьпечыў дзяржаўны скарб ад стратаў — на нясплочаных яшчэ падатках і пазыках, якія дзяржаўныя банкі далі прамыслоўцам і абшарнікам?! Калі ўжо трэба валерызаваць, дык перадусім — пазыкі прамыслоўцаў і абшарнікаў, якія—пры розьніцы загранічнай і краёвай вартасьці злотага—цягнуць з вывазу — вялізарныя карысьці коштом насяленьня і — міма касы дзяржаўнага скарбу (дадамо: на вялізарныя сумы!).

„Ці дзяржаўныя банкі, даючы гэтыя пазыкі, трэбуюць ад гэных паноў вэксэлёў — у цьвёрдай валюце, што **зусім дазволена законам** (?)“.

„Дык — ці-ж урад мае дзьве скарбова-гаспадарчыя палітыкі: адну для ўбогіх, а другую—для багатых“?!.

Для пэпээсаўскага „Robotnika“ гэта ўсё—яшчэ „пытаньні“..

Для нашага беларускага працоўнага народу ніякіх пытаньняў у гэтым ужо няма: ўсё, як сонца, ясна!.

---

Для няпольскага насяленьня „Крэсаў“ сацыяльны, палітычны і нацыянальны зьмест гэтага кроку ураду п. Бартля-Пілсудскага—зусім ясны.

„Зямельны Закон“—ня гледзячы на ўсю барацьбу проці яго ў Сойме — усе-ж такі даў магчымасьць ня-польскаму мяйсцоваму нясяленьню на „Крэсах“ набываць з парцэляцыі зямлю. Але-ж ведама—шырокае разьвіцьцё гэткага пераходу зямлі з польскіх рук у няпольскія **супярэчна з усей польскай дзяржаўнай палітыкай на „Крэсах“, так-званай „польскай рацыяй стану“.** А гэтую апошнюю, як ведама, вышэй за ўсё на сьвеце ставяць дайшоўшыя цяпер да ўлады—лявіцовыя польскія „дэмакраты-дзяржаўнікі“ з „Крэсаў“—паны Пілсудскія, Крыжаноўскія ды Касьцялкоўскія... Дык ясна, што шкодны для „польскай дзяржаўнасьці“ працэс набываньня зямлі мясцовым насяленьнем „Крэсаў“ трэба як мага затармазіць!..

Ведама і то, што без дзяржаўнага крэдыту парцэляцыя зямлі паміж мясцовым сялянствам у шырокім маштабе адбывацца ня можа.

Дык вось — **дзеля гэтага фактычнага недапушчэньня да зямлі мясцовага малазямельніка—і ствараюцца для яго такія варункі дзяржаўнага крэдыту, якія гэтую дапамогу з боку дзяржавы ператвараюць ў пагрозу аканчальнай руіны..**

„Бяры-ж пазыку! Толькі — спрабуй канкураваць тады з польскім асаднікам“,—кажуць мясцоваму сялянству на „Крэсах“ польскія „дэмакраты“...

Можам у заключэньне толькі дадаць, што гістарычная пастанова Гаспадарчага Камітэту міністраў п. Бартля і Пілсудскага — найлепшы адказ на ўсе-ўсялякія гучна-наіўныя—„пункты“ — дамаганьня „Сялянскага Саюзу“, як і на крывадушныя рэклямы (—за грошы таго-ж ураду!)—з боку новаародажанага пілсудчыка — дохтара“ Паўлючэвіча!

**Наглядчык.**

---

# У Сойме і каля Сойму.

*Паседжаньне Сойму 25 чэрвеня.*

### Узяцьце назад 31 урадовага праекту.

Марш. Сойму першым чынам паведамляе, што ўрад узяў назад 31 пададзены ў Сойм законапраект, з якіх некаторыя ляжалі ў камісіях па тры гады.

Узяты назад усе заканапраекты аб мясцовых самаўрадах, аб дзяржаўнай паліцыі, аб арганізацыі школы, аб вынятковым стане і г. д. Урад мае, відаць, усе гэтыя справы вырашаць у парадку „паўнамоцтваў прэзыдэнта“, ці папросту „па 87 стацьці“ — самаўладна...

### Выбары новага старшыні Сойму.

Пасьля адбыліся выбары новага маршалка Сойму на мейсца адмовіўшагася п. Ратая. У першым галасаваньні галасы разьбіліся — ніводзін з кандыдатаў не атрымаў абсалютнай большасьці.— П. Ратай атрымаў 148 галас., п. Гломбіньскі—123, п. Домбскі—25, п. Тарашкевіч—8, п. Тугутт—2, п.п. Дашыньскі і Грушка па 1.

Другое галасаваньне таксама не дало вынікаў. Трэцяе галасаваньне—ужо толькі 2 кандыдатаў, атрымаўшых найбольш галасоў,—дало п. Ратаю 176 галасоў, паслу Гломбіньскаму (эндэку) — 128.—Выбраным лічыцца п. Ратай. Усяго ў галасаваньні прымалі ўчасьце 335 паслоў. 31 картка прызнаны няважнымі.

Гэткім чынам старшыня Ратай цяпер выбраны значна менш, чым трацінай Сойму. За яго аддалі галасы толькі пястоўцы (сваі), Клюб Працы, Вызваленьне, Работнікі-нарадоўцы, пэпэсы і Жыдоўскі Клюб. З славянскіх меншасьцяў падалі галасы хадэцкія групы.

### Бюджэтны даклад і дыскусія.

Дакладчыкам па бюджэту выбраны, як „спэцыяліст“, былы шэф віленскай дэфэнзывы п. Касьцялкоўскі... Дык ясна ж, што ўвесь „даклад“ быў толькі паўтарэньнем таго, што напісана ў праекце ўраду. — Які „парлямант“, такі-ж у ім і „дакладчык“...

**П. Вісьліцкі—ад імя Жыдоўскага Кола**—заявіў, што, хаця жыды і ня вераць у рэальнасьць бюджэту, але дадуць свае галасы „на крыдыт“ ураду, галасуючы толькі проці дадатку 10 проц. да ўсіх падаткаў, бо гэтага ўсё роўна спагнаць з насяленьня няможна.

**П Квяткоўскі — ад Хадэцыі** — таксама востра крытыкуе гаспадарча-фінансавую палітыку ўраду і яе адбіцьце ў бюджэце, але... дакляруе галасы сваіх сяброў за бюджэт, выключаючы толькі — 10 проц. дадатак да падаткаў...

**П. Рогушчак (работнікі - нацыяналісты)** трэбуе дадатку 10 мільёнаў на публічныя работы, але — за бюджэт аддае галасы клюбу.

**П. Лыпацэвіч—„Вызволеньне“**—таксама востра крытыкуе ўрад, да якога „ня мае поўнага даверыя“, бо „ў ім сядзяць міністры, якія сьмела маглі-б сядзець у папярэднім урадзе“... Не дае згоды на 10 проц. дадатак да падаткаў, але — клюб яго будзе галасаваць—з папраўкамі—за бюджэт...

**П. Ваяводзкі** востра крытыкаваў палітыку новых паноў палажэньня, якія ашукалі ўсе надзеі народных масаў на... пераварот! Сялянскія газэты канфіскуюцца толькі за тое, што пішуць аб тым, **чаго ня зробіць Пілсудскі...** „Незалежны Хлоп“ сканфіскаваны за тое, што напісаў, што „Пілсудскі не адбярэ зямлі ў абшарнікаў ды фабрык у капіталістаў“... Урад ня мае ніякай праграмы. Незалежнае сялянства пэўна-ж сваіх галасоў за бюджэт эндэка Клярнера ня дасьць.

**П. Рагуля (Беларускі Клюб)** дамагаецца зьмяншэньня выдаткаў на паліцыю, адміністрацыю і армію. Адмаўляе згоды на 10—працантны дадатак да падаткаў, сцьвярджае, што „маёвы пераварот“ нічога не зьмяніў у палажэньні беларускага народу.

**П. Марачэўскі (ППС)** заяўляе, што ня будзе нічога казаць аб урадзе, бо трэба першым чынам зьвярнуцца да краю за яго новай воляй, ці склікаць новы Сойм... Далей дае таму-ж ураду рад радаў, як трэба бараніць сталасьць польскага злотага дый наагул вясьці фінансавую гаспадарку. У канцы дамагаецца павялічэньня крэдыту на публічныя работы на 30 мільёнаў (адказ на гэта ўжо дадзены ўрадам: пастановай скасаваць само гэтае міністэрства Публ. Работ)...

**П. Домбскі**—ад імя клюбу **„Сялянскай Партыі“** (пілсудчыкаў) — заяўляе, што ўраду ён верыць

дзеля таго, што ў ім—Пілсудскі. Але „рэвалюцыя“ Пілсудскага павінна мець вынікі, якіх пакуль што няма... Трэба зараз-жа рабіць новыя выбары... — Бо Сойм гэты—гнілая ўстанова...

**Старшыня Ратай** перапыняе пасла, забараняючы яму „абражаць высокую ўстанову Сойму“.

**Голас з лавак „Сялянскай Партыі“**: „урад дазваляе-ж абражаць Сойм у прэсе!“

**Старшыня.** Мы можам быць бяссільны проці абразаў Сойму звонку, але я не дазволю рабіць тое-ж унутры Сойму...

**П. Домбскі** кажа далей, што Сойм павінен распусьціцца сам, не чакаючы на Прэзыдэнта. У канцы кажа, што будзе галасаваць за бюджэт, толькі калі скінуць 60 мільёнаў выдаткаў, як гэта рабілася ў камісіі.

**П. Казіцкі—Украінскі Клюб**—скардзіцца на падаткавы ўціск насяленьня. — Якраз як у ведамай байцы аб адным маладым каралі, які — на скаргі, што яго толькі што памершы бацька страшэнна душыў народ,—адказаў: мой бацька біў вас бізунамі, а я буду біць вас скарпіёнамі (бізунамі ды яшчэ з жалезнымі кручкамі)... Да ўраду—ніякага даверыя.

**П. Прылуцкі—жыдоўскі дэмакрат**—абураецца на фінансавую няздарнасьць польскіх урадаў і на тое, што сучасны ўрад падтрымлівае польская лявіца. Вось—калі-б у бюджэт унясьці 1 мільён на жыдоўскія школы, тады—іншая справа...

Прамову пасла **Тарашкевіча** газэта дасьць паводле стэнаграмы.

**П. Войтюк - украінскі камуніст**—скардзючыся на тое, што гарматы Пілсудскага зьнішчылі—разам з урадам Вітаса — і парляманцкую дэмакратыю ў Польшчы, дамагаецца скасаваць § 1 бюджэтнага ўставу, ці фактычна—адкінуць увесь бюджэт.

У канцы ўкраінец **П. Васыньчук** трэбуе скасаваньня ў § 4 крэдыту 625.000 злотых на асаднікаў.

### Вынікі галасаваньня.

Пасьля канцовай прамовы дакладчыка Касьцялкоўскага Сойм агромнай большасьцю прымае бюджэт ураду, адкінуўшы ўсе папраўкі апазіцыі.

За бюджэт галасавалі клюбы: „хрысьціянскіх абшарнікаў, хадэкаў, пястоўцаў, нацыяналістаў-работнікаў, вызваленцаў, пэпэсаў, Сялянскага Саюзу (Брыля і Домбскага). Проці—эндэкі, нацыянальныя меншасьці і камуністы.

### Перагаворы ў справе зьмены Канстытуцыі.

Апрача ўрадавага праекту зьмены Канстытуцыі, у Сойм пададзены штосьці аж 5 праектаў зьменаў Канстытуцыі і Выбарнага Закону.

Дык з аднаго боку марш. Сойму вядзе перагаворы з прадстаўнікамі клюбаў, каб узгодніць іх праекты, а з другога боку прэм'ер стараецца зрабіць тое-ж—датарноўваючы соймавыя праекты да ўрадавага.

2 ліпня, як ведама, мае пачацца разгляд ў Сойме гэтых праектаў.

### Бюджэт у Сэнацкай Камісіі.

У Сэнацкай бюджэтнай камісіі бюджэт таксама, як і ў Соймавай, праскочыў лёгка і шпарка —у некалькі гадзін... На дыскусіі навет нyварта спыняцца. Трэба адзначыць толькі, можа, што сам старшыня камісіі сэн. Адэльман, высказаўшыся, як і большасьць прамоўцаў, **проці** падвыжкі падаткаў на 10 процантаў, аблічыў, што гэтая падвыжка зусім ня дасьць спадзяваных міністрам 115 мільёнаў, а мо' найбольш — 48 з паловай... І ня гледзючы на гэта, — **„вялізарнай большасьцю** бюджэт прыняты паводле праекту ўраду“.

Ведама-ж, тое самае будзе і на пленуме Сэнату.

Павага польскага парлямантарызму—„расьце“!

## У Польшчы.

### Новы трыумф „дэмакратыі“ ў Польшчы.

Рада Міністраў пастанавіла прадоўжыць яшчэ на паўгоду дзеяльнасьць вынятковых („даразных“) судоў— на ўсім прасторы Варшаўскага, Люблінскага і Віленскага апэляцыйных акругоў, ці — амаль не для ўсей усходняй траціны Польшчы.

„Вынятковае судаводзтва“—гэта-ж найважнейшая частка вынятковага стану, ці — знамянітай „усіленай ахраны“, якая таксама была ўведзена ў царскай Расеі—„на паўгоду“, але праістнавала, дзякуй Богу,—аж 36 гадоў—да самага развалу апошняй...

Пышны трыумф польскай дэмакратыі ды—добры адказ на дамаганьні амністыі!..

### Яшчэ такі-ж трыумф.

Урад мае скасаваць зусім асобнае міністэрства Публічных Работ, а яго справы перадаць у загад міністэрству чыгункі.

Дагэтуль аб зьнішчэньні абодвух „пэпэсаўскіх“ пляцовак—абодвух работніцкіх міністэрстваў — Працы і Публічных Работаў — толькі лятуцела, ляскаючы зубамі, хіена. Цяпер першую пляцоўку польскіх работнікаў мае праглынуць—урад польскіх „леоурыстаў“ („леоурысты“—англійскія пэпэсы, толькі разумнейшыя).

### Крывавыя падзеі ў Інаўрацлаве.

27 г. м. адбылося тут веча ППС (Польскай Партыі Сацыялістычнай) у справе роспуску Сойму. Нездаволеныя аднымі гутаркамі работнікі наладзілі паход, дазвол на каторы арганізатары веча не атрымалі.

Кардон паліцыі, заступіўшы дарогу, быў разаружаны, і адзін з паліцыянтаў моцна пабіты.

Другі атрад вартаўнікоў „парадку“, падасьпеўшы на помач пад камандай асьпіранта Бічыско, даў залп у таўпу, у рэзультаце чаго 2 работнікі ляглі трупам, 8 цяжка ранены. Пасьля гэтага дэманстранты рассыпаліся.

### Раскол у П.П.С.

Польская прэса дае цікавыя весткі аб расколе сярод „адзінай і недзялімай (—акурат як царская Расея) Партыі Польскіх Сацыялістаў.

Левыя, больш шчыра работніцкія элемэнты партыі—вельмі нездаволены ўгадовай роляй палітыканаў-павадыроў, праз увесь час сябраваўшых з польскай буржуазіяй, а цяпер — у часы... „перамогі дэмакратыі“ ганебна адсунутых ад уплываў ды седзючых — як мыш пад мятлой марш. Пілсудскага.

Паўстанцы-пэпэсы выдалі адозву, у якой паміж іншым пішуць:

„Ня можам больш маўчаць, калі павадыры ППС у часе перша-майскай дэманстрацыі забівалі работнікаў іншых пераконаньняў. Для чэснага пэпэсаўца няма іншай дарогі, як парваць з партыяй, апанаванай здраднікамі, і стварыць асобную партыю — „Польскую Партыю Сацыялістычную Лявіцы“. Гэтая лявіца мае найбольш прыхільнікаў—у Верхняй Сілезіі, у Люблінскім і Кракаўскім раёнах“.

Важная адзнака часу і—ужо ня першая — перасьцярога для пэпэсаў, якія думаюць, што пасьля апошняга ўдару ад так званай „дэмакратыі“ павадырам работнікаў можна надалей абмяжавацца апазіцыйным піскам у сваіх газэтках.

### „Пілсудчына“ варочаецца.

Наваградзкім ваяводай назначаны былы камісар Усходніх Зямель—п. Асмалоўскі. Гэткім чынам „пілсудчына“ першых часоў „адраджэньня“ ізноў паўстае з магілак. Казачка пачынаецца адпачатку ізноў.

### Сэсія праваслаўнага Сыноду.

28 га чэрвеня пачаліся паседжаньні чарговай сэсіі Праваслаўнага Сыноду ў Варшаве.

### Новыя надужыцьці ў справе навабранцаў.

У Варшаве раскрыта новая хэўра, якая працавала ў справе звальненьня навабранцаў з войска. У надужыцьцях вінавацяць цэлы рад вышэйшых і ніжэйшых афіцэраў, сярод іх—дактары, ня кажучы аб радзе ўньцяроў. На чале хэўры стаяў сам камэндант П.К.У. нейкі Врублеўскі, які арыштаваны разам з іншымі.

Берaглі—„найдаражэйшую ў Польшчы кроў“, ведама-ж,—зарабляючы добра на гэтым інтарэсе.

### Бандыты ў міністэрстве замежных спраў.

У Варшаве да гмаху міністэр. замежных спраў забраліся ўначы бандыты, якія распілавалі сталёвую касу. Але, як хваліцца п. ПАТ („Польскае Тэлеграфнае Агенства“), у гэтай касе... было пуста! Пуста было-ж, ведама, толькі на злосьць зладзеям.

## Заграніцай.

### „Сіняя кніга“.

Англійскі ўрад выдаў „Сінюю кнігу“ — зборнік дакумэнтаў у справе прапаганды Радавага ўраду ў Англіі і ўсей перапіскі аб гэтым між абыдвума ўрадамі.

Англійская прэса жыва абгаварывае гэтую „кнігу“. Ведама, што ў свой час Радавы ўрад заявіў аб фальшывасьці гэтых дакумэнтаў.

### Нота Радавага ўраду Англіі.

З прычыны прамовы міністра фінансаў Англіі Чэрчыля, ведамага ворага бальшавікоў, які востра крытыкаваў палітыку СССР, Чычэрын паслаў англійскаму ўраду вельмі рэзкую ноту пратэсту. У ноце Чычэрын зьбівае абвінавачаньні Чэрчылем СССР, заяўляючы, што ніводнае з замежных забавязаньняў СССР ня было няспоўнена Радавым урадам. Радавы ўрад не паддаецца на правакацыйна-непрызваітыя выпады міністраў замежнага ўраду, але лічыць іх ня толькі недапусьцімымі з пагляду міжнароднай ветлівасьці, але і шкодзячымі таму збліжэньню двох народаў, якога дабіваецца ўрад СССР.

### Паразуменьне між СССР і Нямеччынай.

Ведама, што ўрад СССР адмовіўся ўзяць ад нямецкіх банкаў пазыку на 300 міліёнаў марак—на варунках (залішне высокі процант), якіх тыя зажадалі. Але, каб націснуць на Нямеччыну, пачаў з прамыслоўцамі другіх дзяржаў перагаворы аб вялізарных заказах, якія пад пазыку—мелі быць дадзены нямецкім фабрыкам. Тады нямецкія банкіры ды прамыслоўцы зараз-жа пайшлі на ўступкі,—ведама, каб ня страціць свайго амаль не манапольнага палажэньня ў СССР. І вось, толькі-што наступіла поўнае паразуменьне: немцы згадзіліся на той процант, які запрапанавалі ім Рады.

### Перагаворы між Ватыканам і Радамі.

„ПАТ“ паведамляе, быццам перарваныя на якісь час перагаворы між Масквой і Ватыканам („урадам“ Рымскага Папы) ўзнавіліся. Радавы ўрад быццам згаджаецца на тое, каб Папа прыслаў свайго „пасла“ ў Маскву пры Радавым урадзе, а свайму паслу ў Рыме даручыць адначасна і прадстаўніцтва пры Папе.

## Бацькі—беларусы!

Закончыўся ўжо школьны год, і сярэднія школы ўжо рыхтуюцца к новаму году, прымаюць вучняў на гэты новы год.

Вялікую вагу мае для нашай вёскі тое, куды — у якую школу павядзе ў гэты час свайго сына, ці дачку той бацька беларус, які хоча даць сваім дзецям навуку.

Да гэтага часу напаўняў ён сваімі дзяцьмі экзаменацыйныя салі польскіх школ, якія дакляруюць яго дзецям розныя прывелеі і правы. Але сучасная польская школа толькі ламаець беларускіх дзяцей, стараецца зрабіць з дзяцей будучых „паноў“, ворагаў сваіх бацькоў—сялян.

Памятайце, сяляне, аб тым, што правамі сучасная польская школа хоча купіць вашых дзяцей. Паглядзіце на вашых суседзяў, дзеці каторых вучыліся ў „państwowych gimnazjach“, і вы пабачыце, што ад гэтых школ карысьці нам няма!..

У нас ня многа беларускіх сярэдніх школ (у Вільні, Радашковічах, Клецку і Наваградку); школы гэтыя таксама маюць яшчэ шмат хібаў, але школы гэтыя—нашыя! Сяляне самі іх закладаюць, сяляне могуць зрабіць іх гэтакімі, як для працоўнага народу патраба.

Мала іх—тварыце новыя.

Нам кажуць—і праўду кажуць, што сярэдняя беларуская школа — бяспраўная, што па сканчэньні яе нельга паступіць у вышэйшую польскую школу, ні на ўрадовую пасаду.

Дабіцца правоў мы можам толькі барацьбой за школы. Будуць школы, будуць і правы для іх, будуць студэнты-беларусы—будзе для іх і Унівэрсытэт.

Пасылайце сваіх дзяцей у беларускія школы!

### Замах на гішпанскага дыктатара.

Гішпанская паліцыя выкрыла вельмі шырока разгалінены загавор на істнуючы ў Гішпаніі рэжым ваеннай дыктатуры. Меліся першым чынам забіць ген. Прыма дэ - Рывэру. Зроблена маса арыштаў.

Урад Рывэры выпусьціў агідную адозву, у якой сьцьвярджае, быццам увесь народ шчасьлівы пад яго жаўнерскім ботам, прызнае, што змова проці дыктатуры захапіла вельмі шырокія кругі грамадзянства, што ў падрыхтаваньні замаху прымалі ўчасьці ня толькі моладзь, але і шмат паважных ды паважаных людзей, паміж якімі ёсьць і ваенныя. У канцы адозва кажа, што даволі ўжо ўрад „ласкава цярпеў“ гэткія замахі: цяпер будзе тапіць іх—у крыві загаворшчыкаў...

### У Гішпаніі, здаецца, пачалося.

Ня гледзючы на рашучыя адозвы гішпанскага дыктатара, зламаць „змову“ аказалася ня так лёгка. —Бо „змова“ разрастаецца ў народны паўстанчы рух, пачаўшыся з бунтаў у войску. Ня гледзячы на арышт галоўнага правадыра руху ў Сарагоссе, ген. Агілера, у цэлым радзе мест у гарнізонах выбухлі вайсковыя бунты. Урадавыя войскі, пасыланыя проці паўстанцаў, адмаўляюцца слухацца каманды...

А гішпанскі кароль у гэткі час паехаў сабе ў падарожу па Парыжам. Дык, можа, і ня вернецца, бо ў Парыжу на вагзале яго пільнавалі „верныя паддданыя“, каб яго забіць. Праўда, замахоўцаў загадзя арыштавалі. Тады значная таўпа гішпанскіх эмігрантаў зрабіла каралю—„кацячы канцэрт“, у якім прыняло ўчасьце і шмат французаў...

## ХРОНІКА.

**З Таварыства Беларускае Школы.** Неўзабаве выйдуць з друку Новы Статут Таварыства Беларускай Школы і інструкцыі, як арганізоўваць Аддзелы і Гурткі Таварыства, як адчыняць прыватныя беларускія школы і закладаць бібліатэкі і чытальні ў вёсках і мястэчках.

Статут Т-ва ўжо зацьверджаны на ўсю Польшчу, дык на падставе яго можна закладаць бібліатэкі, чытальні і вясьці іншую культурна-асьветную працу ў-ва ўсіх паветах Заходняй Беларусі.

Статут і інструкцыі можна выпісваць:

1) з Галоўнае Управы Таварыства Беларускае Школы—Вільня, Віленская 12—6;

2) з Беларускае Кнігарні — Вільня, Вострабрамская 1.

На перасылку Статуту і інструкцыі закрытым простым пакетам трэба прысылаць паштовых марак на 15 грошаў, заказным на 45 грошаў, а прастымі друкамі на 5 грошаў.

**„Конфідэнт паліцыі“ — перадавік і галоўны супрацоўнік „Kur. Wil.“.** Нешта выйшла — нейкая спрэчка—ў лоне рэдакцыі органу мяйсцовай дэмакратыі—„Kur. Wil.“, у выніку чаго сама гэная газэта зьмясьціла ў сябе заметку аб тым, што „нейкі п. Ізыдар Зільбэрман, які выдае сябе за супрацоўніка „Kur. Wil.“,... — зьяўляецца „ведамым конфідэнтам (агентам) паліцыі, дый то, здаецца,— для спэцыяльнага нагляду над прэсай“...

На гэтую заметку адказаў у „Dzien. Wil.“, сам п. Зільбэрман, **дакумэнтальна** сьцьвярдзіўшы, што ён паўтара году—ад самага паўстаньня газэты — працаваў у ёй, як сталы **перадавік, аглядчык прэсы** і т. п. (якраз—праца **кіраўніка газэты!**)... Яшчэ шмат чаго піша п. Зільбэрман, які ўрэшце мае пацягнуць паноў „курвіленцаў“ да судовай адказнасьці...

Хто з іх правы, а хто лжэ, разьбярэ мо' за гады тры суд. Але для нашага грамадзянства шмат рэчаў у „працы" паважанага „органу польскай дэмакратыі"—зрабілася ясным... — Ясна і высоўваньне Аляксюка і рэклямаваньне Павлюкевіча і яшчэ шмат чаго! Дый наагул—ці-ж ня цікаўна заява Мэмарыялу п. Павлюкевіча (надрукаванага „другой перадавіцай" у „Kur. Wil."), што „толькі цяпер" (гэта значыць: толькі ў часе трыумфу ўлады „польскай дэмакратыі"!)—ён „атрымаў магчымасьць" (карацей: грошы) склікаць так доўга адкладаны „зьезд Заходняй Беларусі"... Навет паўэндэцкія ўрады, калі ня брыдзіліся неяк падтрымліваць п. Павлюкевіча, дык шкадавалі сыпаць у яго бездонны трыбух гэтулькі грошы...

**„Падзяка".** За ласкавую памяць аб „Беларускай Справе" Кур'еру Віленскаму—„незалежнаму дэмакратычнаму органу", які сваей заметкай, выссанай з пальца прыскорыў арышт рэдактара ўспамянутай часопісі,—працаўнікі яе просяць высказаць іх „падзяку"!..

Гэта рэчы тонкія, балюча адчуць каторыя адразу маглі толькі беспасрэдна пацярпеўшыя.

Справа прадстаўлялася гэтак: з прычыны часовага выезду рэдактара „Бел. Справы" ўсім падпішчыкам яе, на падставе ўмовы паміж рэдакцыямі, была выслана „Народная Справа".

Аб гэтым **выразна было сказана ў № 1 „Народнае Справы"**; аб ліквідацыі „Бел. Справы" ня было ўспомнена ні адным словам.

Дэмакратычны орган — Кур'ер Віленскі сьвядома фальшыва прадставіў справу, гаворачы аб ліквідацыі „камунізуючай" часопісі.

Рэдактару „Бел. Справы" грaзіў і без таго арышт, бо газэта ў часах „перамогі маральнасьці" была найбольш канфіскавана.

Даведаўшыся з гэтакіх „wiarogodnych" крыніц, як „Кур'ер Віленскі", аб „закрыцьці" „Бел. Справы", — улада, відаць, баючыся, каб асоба рэдактара не ўцякла ад справядлівай караючай рукі правасудзьдзя,—мамэнтальна занялася ім. Былі прысланы аж 3 павесткі ў адзін дзень, вызываючыя яго да сьледчага судзьдзі. Вярнуўшыся з падарожы, і выпусьціўшы чарговы нумар „Беларускай Справы", рэдактар быў арыштаваны.

**Судавая справа.** 10/VI Акружны Суд у Навагрудку разглядаў справу Нясьвіскага раёну Камуністычнай партыі Зах. Беларусі. Абінавачана 18 асоб.

Трое з іх былі засуджаны ў свой час на кару сьмерці за стрэлы да паліцыянтаў, аднак прэзыдэнт замяніў гэтую кару на „dożywotne więzienie".

Цяпер прыгаварам суда засуджаны 12 асоб на 4 гады турмы, рэшта звольнена.

**„Падаткавыя палёгкі".** Газэты пішуць, што ўрад мае выдаць распараджэньне аб тым, што ўсім тым падатнікам, якія да жніўня заплоцяць усе належныя за гэты год падаткі, будуць скасаваны ўсе нядоімкі (няўнесеныя падаткі) за 1924 г. і некаторыя незаплочаныя падаткі за 1925 г.

**Як павінны вясьці сябе сэквэстатары.** З прычыны пастаянных скарг на сэквэстатараў—Міністэрства Скарбу выдала спэцыяльнае распараджаньне аб парадку ходу экзэкуцый:

Сэквэстатар мусіць мець: 1) пасьведчаньне з урадавай пячаткай і подпісам начальніка экзэкуцыйнай улады, 2) загад аб выкананьні экзэкуцыі і 3) „tytuł egzekucyjny". Прысутнасьць паліцыянта пры экзыкуцыі неабходна: а) калі дзьверы кватэры замкнёны і адмоўлена іх адчыніць, b) калі не адчынены замкі ад складаў, c) калі няма дома даўжніка і калі экзэкуцыя мусіла адбыцца без яго.

**Афіцыяльны курс грошы на 30 чэрвеня.** Даляр — 9 зл. 60 гр. Залаты рубель — 4 зл. 93 грошы.

30. VI. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 9,70. Чырвонец 44 зл.

## Да усіх сялян беларусау і грамадзян, спрыяючых асьвеце.

Глыбоцкая Акружная Управа Таварыства Беларускай Школы паставіла сваей найбліжэйшай задачай адчыніць Беларускую Гімназію ў Глыбокім.

Усім ведама, як цяжка мужыку пасылаць свайго сына, ці дачку ў горад і пракарміць яго там. Усім таксама ведама, што ў сучаснай польскай школе беларускія дзеткі маюць ня толькі труднасьці з мовой, але навучаюцца там толькі шанаваць усё „панскае", ды пагарджаць вясковых сярмяжнікаў і мястовых работнікаў. Нам патрэбна свая незалежная школа!

Галоўная бяда Глыбокага—гэта нястача будынку пад школу, які пабудаваць уласнымі сіламі мясцовае сялянства ня можа. Дзеля таго Управа Таварыства Бел. Школы зьвяртаецца да ўсіх беларусаў, знаходячыхся ці то ў Польшчы, ці ў Радавай Рэспубліцы, Латвіі, Ліцьве, ці ў Амэрыцы—з просьбай адгукнуцца на наш заклік і **памагчы сваей ахвярай адбудаваць памешканьне для Гімназіі**, палажыць свае цэгліны пад гэты будынак.

Управа з шчырай падзякай прыймае ўсякі дар і будзе ў газэце вясьці іх рахунак.

Ахвяры прыймаюцца **скарбнікам Управы Верай Дрозд (Глыбокае, вул. Сенкевіча № 17) і Беларускім Банкам у Вільні (Віленская 8).**

Старшыня Управы: **Мятла.**
Сябры: **Дрозд, Зіваліч.**
Сэкрэтар: **В. Скурко.**

Увага: Ахвяраваўшыя вартасьць 1 доляра будуць лічыцца пачэснымі сябрамі таварыства; ахвяраваўшым тры і болей—будуць выдавацца срэбныя жэтоны—цэглінкі. Імёны ахвярадаўцаў 5 дал. будуць запісаны ў асобную кнігу, а 10 даляраў—высечаны на табліцы ў памяшчэньні Гімназіі.

# Карэспандэнцыі.

**Прысылаючы карэспандэнцыю — не забывайцеся падаваць свой адрас і прозьвішча — для ведама рэдакцыі.**

**Рэдакцыя ня можа памясьціць карэспандэнцыі, ня ведаючы, ад каго яна.**

**Мы ўжо мелі выпадкі, што ворагі нашы прысылалі выдуманыя і непадпісаныя карэспандэнцыі з мэтай падвясьці газэту. Рэдакцыя.**

### У грамадзе і дружнасьці моц.

(Сьвіслацкая гм., Ваўкавыскі пав.).

Ужо мы пісалі аб тым вызыску, які церпяць нашы сяляне з боку фірмы „Рабмэль", што эксплёатуе Ятвескі лес—нішчыць нашае багацьце.— Цяпер сяляне, што працуюць у лесе, рашылі не паддацца эксплёататарам — патрэбавалі 30 проц. падбаўкі. Кіраўнік гэтай фірмы — Почтар хацеў разьбіць фронт работнікаў, але не ўдалося. — Як патрэбавалі падбаўкі сяляне з бліжэйшых вёсак, то Почтар сказаў, што сяляне з далейшых вёсак будуць працаваць за тое, што ён дасьць. Але гэтыя сяляне далучыліся да першых і, стоячы ўсе разам ды дружна,—работнікі выйгралі.

Пасьля група работнікаў, што працуе на цяжэйшай рабоце, зажадала 50 проц. падбаўкі.—Ім адмовілі.—Дык усе работнікі забаставалі, падтрымоўваючы сваіх таварышоў.—Панскія падлізы, як лясьнік Валодзя, хацелі разьбіць фронт работнікаў, але і тут ім не ўдалося. Прыяжджаў з Сьвіслачы і камандант паліцыі, які пагражаў годам вастрогу „бунтаўшчыкам",—а Язэпа Салагубіка, Ул. Салагубіка, Паўла Паўлоўскага і Васіля Гэрмана забраў на пастарунак. Цягалі, але хутка выпусьцілі. Нічога не памагло! Работнікі стаялі дружна і дабіліся свайго! **І. К.**

### Не палегчала нам ад „маральнай рэвалюцыі".

(Кобрынь).

Не палегчала нам цяпер, а яшчэ большыя перасьледаваньні церпім! Цяпер у Кобрынскім павеце прайшла хваля арыштаў—вінавацяць усіх у камунізьме. Узялі здаровых, маладых хлапцоў—проста кроў з малаком,—а выпусьцілі,—не знайшоўшы віны, — страшных, што хоць у труну кладзі...

— Але—кажуць—„за бітага двох нябітых даюць". Усе гэтыя зьбітыя, скатаваныя — гэта навабранцы, хлопцы поўныя сілы і веры! А вось вынік таго, што яны перацярпелі. Пасьля прызыву ў войска ў Кобрыне яны, у знак пратэсту, дэманстратыўна прайшлі па горадзе пяючы **інтэрнацыянал!**

**Інт.**

### Заплаціў.

(В. Шэні, Пружанскага пав.).

Захацеў наш камандант паліцыі Вежбіцкі бульбы і просіць селяніна Каленіка Шышко. Шышко бульбу на плечы і панёс. Камандант і пытае: „Колькі за бульбу?" — А селянін: „Колькі ласка". Камандант ткнуў яму 80 грошы, а бульба каштавала 1 злоты. Потым камандант вярнуў селяніна рубаць дровы. Селянін і думае, патраціў на бульбе, дык мо зараблю на дровах! Рубаў да вечара і просіць платы. А камандант як крыкне: „а табе тых 80 грошы мала? Вон, хаме". І селянін пайшоў ні з чым. **Вясёлы.**

**Ад Рэдакцыі.** Тут і сам селянін вінават: за сваё дабро трэба трэбаваць, колькі яно варта, і дарма „начальству" ня служыць!..

### Як ашукваюць людзей.

(Малчадзкая гм., Баранавіцкі пав.).

Нейкія ашуканцы, панаехаўшыя з каранной Польшчы, вось што выробляюць. Ходзяць па рынку ды заклікаюць людзей да сябе, а там на стале ляжаць якіясь „фокусы": за адно пацягнеш — выйграеш, за другое—прайграеш; а стаўка ня менш 2 зл. Наіўныя сяляне, прадаўшы што на рынку, паддаюцца спакусе і аказваюцца ахвярай гэтых шулераў. І паліцыя аб гэтым ведае, але—маўчыць; яна толькі глядзіць, ці дошчачкі прыбіты да вазоў, ды ці вазы на рынку пастаўлены ў рад,—а шулеры гуляюць. **Праездны.**

### Выслугуюцца.

(Ліда).

Дзівіліся мы, скуль раптам сталі атрымоўваць некаторыя жыхары дэфэнзыўную газэціну „Беларускае Слова". Думалі мы, што самы пачалі выпісываць, каб паправіць сабе „марку" ў паліцыі. Аж—не! Аказваецца, гэта поп наш з дзяком працуюць у гэтым напрамку. Поп у царкве намаўляе, а дзяк ходзіць па хатах і нахалам выманьвае грошы на Павлюкевічаўскія газэты. Ці грошы пасылае ў рэдакцыю,—ня ведама, але адрасы, відаць, падае. І чаму гэта? Аказваецца, — у папы рыхтуецца, дык хоча перад уладай здабыць сабе марку! Бо-ж цяпер ваявода больш значыць, чым мітрапаліт у царкоўных справах!.. **Лідчанін.**

# Пасольскі мітынг „Грамады".

(Лунінец).

Так званая Польская Партыя Сацыялістычная дагэтуль лічыла сябе гаспадаром нашага мястэчка, а навет і цэлага павету. Пасол Воліцкі рознымі штучкамі дурыў нашым сялянам галовы, і патрэбна было аж некалькі гадоў, каб народ гэта зразумеў. Наш селянін доўга думаець, але, калі даведаецца аб ашуканству, то ашуканцу не паздаровіцца. На жаль, дагэтуль ніхто з нашых паслоў не заглядаў да нас і раней ня выясьніў нам гэтую ашуканскую працу. І вось 22-га чэрвеня мы былі прыемна зьдзіўлены, а разам і здаволены, калі да нас прыехаў пасол Мятла з Белар. Сялянска-Работн. Грамады і абвясьціў аб мітынгу. Дзеля таго, што ў гэты час якраз адбываецца сенакос, а галоўнае —дзеля таго, што ніхто ня быў паведамлены раней і ня ведаў аб мітынгу, людзей было малавата. А шкада. Варта было паслухаць. Ну, але тыя, хто пабываў на мінынгу, разнясуць тую праўду, аб якой гаварыў пасол, па цэлыму павеце.

Мы й самі дагадываліся, што нашы П. П. С. маюць два твары: адзін для нас — мужыкоў „крэсоўцаў", а другі—для сваей „брацьці" — польскай буржуазіі. Ідуць да нас з самымі рэвалюцыйнымі лёзунгамі, з чырвоным штандарам, з нібы-то палёгкамі для народу, а там—у Варшаве — галасуюць, каб зямля была за плату, каб сядзелі на нашых землях асаднікі, каб мы не маглі навет на сваю патрэбу засеяць хоць трошкі тытуну. Нарэшце, сядзелі яны і на лавах міністэрскіх у той час, калі ў нас плакалі людцы ад падатковых сэквэстратароў і ад разгулу і несправядлівасьці нашае паліцыі і адміністрацыі. Гэтае дужа добра выясьніў пасол Мятла, і яго рада: не спадзявацца ні ад каго дапамогі, а сваімі ўласнымі рукамі будаваць сваю родную хатку, хай паслужыць лёзунгам для кожнага, хто хоча і будуе лепшую будучыну. Павінны ўсе, як адзін, з'эрганізавацца ў Белар. Сял.-Работн. Грамадзе, як партыі працоўнага люду, як партыі нашага многапакутнага беларускага працоўнага народу.

Шчыра дзякуем паслу за яго прыезд. Спадзяёмся, што за першай ластаўкай настане вясна грамадцкага жыцьця, атручванага дагэтуль праз П. П. С., і ў нашым цёмным і закінутым вугалку. Просім паслоў з „Грамады" часьцей заглядаць у наш куток. **Лесавік.**

### Нарэшце.

(З Вялейкі).

23-га чэрвеня г. г. ў Вялейцы павятовай адбыўся суд над агентам Вялейскай палітычнай паліцы Атрошкіным і яго памоцнікамі: Фалевічам, Арленковічам і Грышкевічам, якія падлажылі вінтоўкі грам. Адамовічу і абвінавацілі яго ў арганізацыі беларускай баёўкі. Але на гэты раз ім не ўдалося (Атрошкін фабрыкаваў працэсы ад 22 году!): справа высьветлілася, і кумпанія села за краты. Судзіў Вялейскі Акружны Суд. Атрошкін дастаў 3½ гады папраўчага дому, а рэшта кумпаніі—па 2 гады. **Крывіч.**

### Вось як з намі.

(Глыбокае).

Вось, што здарылася на кірмашы ў Глыбокім. Жыхара в. Забалоцьце, Докшыцкай гм.—Шабана ні з сяго ні з таго паліцыянт № 2329 мімаходам удэрыў кіём па галаве і па сьпіне;—і гэта бяз ніякай прычыны (—відаць, паліцыянт быў п'яны).

Бачучы гэта, сяляне закрычалі: „гэтак ня можна біць людзей"! Раззлаваўшыся паліцыянт арыштаваў сел. Антона Парфяновіча з засьценка Рэпішча і аддаў другому паліцыянту, які адвёў яго на пастарунак.

Там пратрымалі Парфяновіча 5 гадз. і напісалі пратакол, што Парфяновіч камуніст, бунтаўшчык і падбураў увесь рынак,—адным словам залічылі яго да палітычных праступнікаў. **Прысутны.**



Адказны-Рэдактар: **Т. Крачына.** Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22. Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**